Пролетары ўсіх краін, яднайцеся!

# ВОЛЬНАЯ ПРАЦА

Орган Беластоцкага абкома і гаркома КП(б)Б і абласнога выканаўчага камітэта

Год выдання другі

№ 287 (356)
СУБОТА
14
СНЕЖНЯ
1940 г.

Цана 10 капеек.

*ЗАЎТРА ВЫБАРЫ Ў МЯСЦОВЫЯ СОВЕТЫ*

*Грамадзяне і грамадзянкі! Усе як адзін з'явімся да выбарчых урнаў і аднадушна будзем галасаваць за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.*

## Напярэдадні вялікага дня

Заўтра ў шэсць гадзін раніцы адчыняцца дзверы выбарчых участкаў у гарадах і вёсках вызваленых заходніх абласцей Беларусі і Украіны. У нашай вобласці ўсюды ўжо закончаны апошнія падрыхтаванні да выбараў: праверапы спіскі выбаршчыкаў, падрыхтаваны бюлетэні, кабіны, урны. Памяшканні ўчасткаў абсталяваны і ўпрыгожаны.

Дабро пажалаваць, дарагія таварышы выбаршчыкі! Як адзін ідзіце да выбарчых урнаў і галасуйце за вылучаных кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, галасуйце за партыю Леніна — Сталіна, за шчаслівае і радаснае жыццё!

Капіталістычныя дзяржавы ахоплены пажарам другой імперыялістычнай вайны. У Англіі, Германіі, Італіі, Грэцыі і іншых краінах праліваюцца моры крыві працоўных у імя капіталізма. Кожны дзень на вайну выдаткоўваюцца незлічоныя сродкі. Англія штодзённа выдаткоўвае 12,6 мільёна фунтаў стэрлінгаў. Рабочыя і сяляне паміраюць на полі вайны, паміраюць ад голаду і холаду. Лік беспрацоўных у Англіі павялічыўся з 799 тысяч у верасні гэтага года да 835 тысяч у кастрычніку. Але затое павялічыліся багацці капіталістаў. Прыбытак 19 буйнейшых стальных кампаній у ЗША павялічыўся да 70 мільёнаў долараў у трэцім квартале гэтага года супроць 45 мільёнаў долараў у другім квартале.

У іншых умовах жывуць і працуюць народы СССР. Кожны дзень прыносіць новыя і новыя перамогі краіне соцыялізма і яе людзям. Працоўныя Совецкага Саюза жывуць радасна і шчасліва. Іх мірную працу, шчаслівае жыццё ахоўвае гераічная Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія. Яна гатова ў любую мінуту сакрушыць любога ворага, які пасмее напасці на нас.

Народы СССР горды і рады за сваю соцыялістычную радзіму. Асабліва вялікая радасць і шчасце працоўных вызваленых абласцей ад капіталістычнага прыгнёту. Капіталізмам яны былі кінуты ў палаючы агонь вайны. Ад жахаў вайны і смерці іх выратавала Чырвоная Армія. Вялікі совецкі народ і партыя Леніна — Сталіна далі вызваленым народам усе правы грамадзян СССР. За кароткі тэрмін жыцця пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі заходнія вобласці змянілі сваё аблічча. Поўным ходам працуюць прамысловыя прадпрыемствы, растуць і багацеюць маладыя калгасы. Цяга сялян у калгасы ўзрастае з кожным днём.

Сталінская Канстытуцыя прадаставіла працоўным вялікія правы на працу, на адпачынак, на асвету, на радаснае, шчаслівае жыццё. Упершыню на сапраўды дэмакратычных пачатках выбіраюцца мясцовыя органы ўлады. У былой польскай дзяржаве буржуазія і памешчыкі вылучалі сваіх кандыдатаў і рознымі махінацыямі «выбіралі» іх у органы ўлады. Урадавыя кругі ўсямерна распальвалі нацыянальную варожасць, тэрарызавалі беларускае, украінскае і яўрэйскае насельніцтва. Дэпутаты не былі прадстаўнікамі народа, а прадстаўлялі капіталістаў, памешчыкаў і купцоў.

Вылучаныя кандыдаты ў дэпутаты мясцовых Советаў у адпаведнасці з сталінскім выбарчым законам з'яўляюцца прадстаўнікамі народа. Прадстаўлены ўсе групы насельніцтва: рабочыя, калгаснікі, працоўныя сяляне-аднаасобнікі, інтэлігенцыя. Кандыдатамі ў дэпутаты Беластоцкага гарадскога Совета вылучана 69 палякаў, 67 беларусоў, 57 яўрэяў, 34 рускіх і 6 чалавек іншых нацыянальнасцей. Сярод вылучаных 89 жанчын, 32 чалавекі моладзі ад 18 да 25 год. Ніколі Беласток не ведаў такога інтэрнацыянальнага мясцовага органа ўлады. Вылучаныя кандыдаты—лепшыя рабочыя і работніцы фабрык і заводаў, настаўнікі, урачы, мастакі, пісьменнікі, совецкія служачыя. Вылучан кандыдатам у дэпутаты чатырохстаночнік 5-га камбіната Майсей Бэз, стаханаўка плюшавай фабрыкі Екацерына Кандрацкая, мастак Наталья Ляндау, паэт Максім Танк, студэнтка педагагічнага інстытута Ольга Налівайка. У абласны Совет кандыдатамі ў дэпутаты вылучаны: трактарыстка Аўгустоўскай МТС Пілецкая, тэкстыльшчыца 1-га камбіната Жыўлюк, селянін Лапскага раёна Ічкоўскі, чыгуначнік Партынскі, артыст Вашчэровіч і іншыя. Гэта лепшыя сыны і дочкі народа. Іх народ аднадушна вылучыў кандыдатамі ў дэпутаты і за іх будзе галасаваць заўтра—15 снежня.

У выбарчай кампаніі ажыццёўлен самы цесны блок комуністаў і беспартыйных. Усе зарэгістрыраваныя кандыдаты ў дэпутаты абласнога, раённых, гарадскіх, сельскіх і пасялковых Советаў з'яўляюцца кандыдатамі гэтага блока.

Працоўныя заходніх абласцей Беларусі ўжо галасавалі за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Усім памятны выдатныя вынікі выбараў у Народнае Сабранне Заходняй Беларусі і ў Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Народ аднадушна выбраў сваіх лепшых прадстаўнікоў—партыйных і непартыйных большэвікоў. Выбраў таму, што яны стаяць за народ, прадстаўляюць яго інтарэсы.

Няма сумнення, што і ў мясцовыя Советы будуць выбраны кандыдаты блока комуністаў і беспартыйных. Будуць выбраны таму, што толькі яны чэсна могуць служыць народу, памнажаць багацці соцыялістычнай радзімы, клапаціцца аб яе абароннай і гаспадарчай магутнасці.

Таварышы выбаршчыкі, грамадзяне і грамадзянкі нашай соцыялістычнай радзімы! Няма большага шчасця на зямлі, як шчасце быць грамадзянінам вялікай соцыялістычнай дзяржавы, чэсна працаваць, умацоўваць магутнасць сваёй радзімы. Кожны грамадзянін і грамадзянка з пачуццём вялікага задаволення і радасці пойдуць заўтра да выбарчых урнаў, каб аддаць свае галасы за лепшых сыноў сваёй радзімы, за вялікія перамогі соцыялізма.

## Таварыш І. В. Сталін зарэгістрыраван кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 264 г. Кішынёва

КІШЫНЁЎ, 12 снежня. (ТАСС). Працоўныя Малдавіі атрымалі ўчора радасную вестку: таварыш Сталін даў згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР.

Памяшканне акруговай выбарчай камісіі Ленінскай выбарчай акругі № 264 запоўнілі члены камісіі, прадстаўнікі калектываў прадпрыемстваў, члены ўчастковых выбарчых камісій.

Адкрываючы пасяджэнне, старшыня акруговай выбарчай камісіі тав. Дзесятнікаў гаворыць:

— Працоўныя нашай выбарчай акругі сваім кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР аднадушна вылучылі тварца самай дэмакратычнай у свеце Канстытуцыі — вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна. Я шчаслівы паведаміць вам, што таварыш Сталін даў сваю згоду балатыравацца па нашай выбарчай акрузе.

Успыхвае авацыя. Бурнымі апладысментамі, воклічамі прывітанняў у чэсць таварыша Сталіна выражаюць сваю радасць прысутныя.

Акруговая выбарчая камісія аднагалосна прымае наступную пастанову:

«Зарэгістрыраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР па Ленінскай выбарчай акрузе № 264 горада Кішынёва выстаўленую агульным сходам работнікаў упраўлення кішынёўскай чыгункі, агульным сходам рабочых і служачых электрастанцыі Кішынёва, на якіх прысутнічала 517 чалавек, кандыдатуру ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР таварыша Сталіна Іосіфа Вісарыёнавіча, год нараджэння 1879, члена ВКП(б), генеральнага сакратара ЦК ВКП(б), пражываючага ў горадзе Маскве».

## Таварыш В. М. Молатаў зарэгістрыраван кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР па Бельцкай цэнтральнай выбарчай акрузе № 124

БЕЛЬТЫ, 12 снежня. (ТАСС). Учора адбылося пасяджэнне акруговай выбарчай камісіі Бельцкай Цэнтральнай выбарчай акругі № 124. Адкрывае пасяджэнне старшыня камісіі тав. Абошын. Ён паведамляе, што тав. Молатаў даў згоду балатыравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР па 124-й выбарчай акрузе.

Гэта вестка выклікае ўсеагульную радасць. Прысутныя бурна апладыруюць.

Слова бярэ дырэктар цукровага завода тав. Волкаў.

— Калектыў нашага завода,— гаворыць ён, — просіць акруговую выбарчую камісію зарэгістрыраваць аднадушна вылучаную намі кандыдатуру бліжэйшага саратніка вялікага Сталіна, главу Совецкага ўрада, кіраўніка знешняй палітыкі соцыялістычнай дзяржавы—таварыша Молатава.

Акруговая выбарчая камісія аднадушна пастанавіла:

«Зарэгістрыраваць для балатыроўкі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета Малдаўскай ССР па Бельцкай Цэнтральнай выбарчай акрузе № 124 выстаўленую агульнымі сходамі калектываў рабочых і служачых бельцкіх цукровага і спіртовага заводаў, будаўнікоў горада кандыдатуру таварыша Вячаслава Міхайлавіча Молатава, члена ВКП(б), старшыню Соўнаркома СССР і Наркома замежных спраў СССР, пражываючага ў г. Маскве».

## XV акруговая партыйная канферэнцыя Заходняй Асобай Ваеннай Акругі

11 снежня ў 18 гадзін у Доме Чырвонай Арміі адкрылася XV акруговая партыйная канферэнцыя Заходняй Асобай Ваеннай Акругі.

Сярод дэлегатаў — праслаўленыя ў баях камандзіры, палітработнікі, байцы, прадстаўнікі ўсіх відаў зброі. У іх ліку Героі Совецкага Саюза, многа ордэнаносцаў.

Канферэнцыю адкрывае кароткім уступным словам корпусны камісар тав. Фаміных.

— Большэвікі Заходняй Асобай Ваеннай Акругі,—гаворыць тав. Фаміных, — прышлі да сваёй XV партыйнай канферэнцыі цесна згуртаванымі вакол Цэнтральнага камітэта ВКП(б) і таварыша Сталіна.

У прэзідыум канферэнцыі выбраны: камандуючы Заходняй Асобай Ваеннай Акругай генерал-палкоўнік танкавых войск Герой Совецкага Саюза тав. Паўлаў, сакратар ЦК КП(б)Б член ваеннага Совета акругі тав. Панамарэнка, Старшыня СНК БССР тав. Былінскі, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР тав. Наталевіч, сакратары ЦК КП(б)Б тт. Кулагін і Малін, корпусны камісар тав. Фаміных, Герой Совецкага Саюза тав. Чэрных, Герой Совецкага Саюза малодшы палітрук тав. Жолаб, Герой Совецкага Саюза тав. Фамічоў, прадстаўнік Галоўнага Упраўлення палітычнай прапаганды Чырвонай Арміі брыгадны камісар тав. Маслаў, начальнік Упраўлення палітычнай прапаганды акругі дывізійны камісар тав. Іваноў, генерал-лейтэнант тав. Болдзін, упаўнаважаны камісіі партыйнага кантроля пры ЦК ВКП(б) па БССР тав. Захараў, нарком унутраных спраў БССР тав. Цанава, сакратар Мінскага абкома КП(б)Б тав. Матвееў, парторг падраздзялення малодшы камандзір тав. Верушкін і інш.

З вялікім натхненнем выбіраецца пачотны прэзідыум канферэнцыі ў саставе членаў Палітбюро ЦК ВКП(б) на чале з таварышам Сталіным, а таксама таварышы Цімашэнка і Дзімітраў.

Упамінанне імені вялікага Сталіна сустракаецца бурнай авацыяй. Раздаецца гучнае «ура», воклічы: «Няхай жыве наш родны Сталін!»

З дакладам аб задачах паліторганаў і партарганізацый у сувязі з перабудовай баявой падрыхтоўкі выступіў дывізійны камісар тав. Іваноў.

Нарком абароны паставіў асноўную задачу — зрабіць усясільнымі ўзвод, роту, батарэю, эскадрон. У выкананні гэтай задачы дасягнуты ўжо сур'ёзныя поспехі.

— Мы паднялі, — гаворыць тав. Іваноў, — абучэнне войск акругі на больш высокую ступень. Рад часцей і злучэнняў атрымалі высокую ацэнку Наркома.

Дакладчык прыводзіць шматлікія прыклады, паказваючыя, што большасць аддзелаў прапаганды правільна зразумела свае задачы. Там, дзе палітработнікі пакінулі кабінеты і пайшлі ў падраздзяленні, мабілізавалі комуністаў, комсамольцаў і ўсю масу байцоў на выкананне загадаў Наркома Абароны, — там кожная задача выконваецца якасна лепш і з большай адказнасцю.

Надзвычай важнае значэнне мае зараз марксісцка-ленінская асвета камандных і палітычных кадраў. Многія камандзіры і палітработнікі акругі паказваюць прыклад у справе вывучэння марксісцка-ленінскай тэорыі. Аднак асноўным недахопам у вучобе з'яўляецца тое, што большасць камандзіраў працуе над першымі раздзеламі «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)».

Чырвоная Армія моцная сваёй высокай дысцыплінай. Насаджаць высокую совецкую воінскую дысцыпліну, як вышэйшую форму дзяржаўнай дысцыпліны, — важнейшая задача камандзіраў, палітработнікаў, партыйных арганізацый.

Дакладчык падрабязна спыніўся на пытанні кіраўніцтва комсамольскімі арганізацыямі. Ён падкрэсліў велізарную ролю комсамола ў справе выхавання і мабілізацыі байцоў на выкананне загадаў Наркома.

Пасля даклада тав. Іванова канферэнцыя пад бурныя апладысменты прыняла прывітальныя тэлеграмы таварышу Сталіну і Наркому Абароны Маршалу і Герою Совецкага Саюза тав. Цімашэнка.




## *Сустрэнем дзень выбараў новымі вытворчымі перамогамі*

### У ЧЭСЦЬ ВЫБАРАЎ

ГРОДНА. (Па тэлефону). Калектыў гродненскага хлебакамбіната (дырэктар тав. Куртман) датэрмінова, 11 снежня, выканаў гадавую вытворчую праграму на 100,4 процанта. Да канца года хлебакамбінат дасць звыш плана на 115 тысяч рублёў прадукцыі.

Лепшых паказчыкаў дабіўся майстар пякарні № 12 тав. Ракавіцкі, які выконвае норму выпрацоўкі на 260 процантаў. Добра працуе майстар пякарні № 4 тав. Пашко, які дае сістэматычна звыш двух норм.

Вялікіх вынікаў дасягнуў і калектыў гродненскай электрастанцыі (дырэктар т. Архіпаў). Гадавая праграма па выпрацоўцы электраэнергіі выканана на 115 процантаў. Электрастанцыя дала прыбытку звыш плана 368 тысяч рублёў. За апошнія 10 месяцаў зэканомлена 460 тон каменнага вугалю. Электрастанцыя ўзорна падрыхтавалася да зімы: адрамантаваны ўсе агрэгаты. Сваёй прыкладнай стаханаўскай працай выдзяляюцца кандыдаты ў дэпутаты горсовета тт. Скачко, Немаровіч і Данейка.

**М. Шахрай.**

* * *

Калектыў 8-га тэкстыльнага камбіната (Васількова) дзейна рыхтуецца сустрэць дзень выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных. Многія рабочыя перавыконваюць нормы выпрацоўкі. Добра працуе стаханаўка Пікульская, якая за змену выпускае 3000 метраў тавару. Добра таксама працуе 65-гадовая стаханаўка Шыманская.

Калектыў камбіната абавязаўся да 15 снежня выканаць гадавую вытворчую праграму, прыйсці да дня выбараў з новымі вытворчымі перамогамі.

**К. Сіліцкі.**

### ДАСТОЙНАЯ СУСТРЭЧА

12 снежня ткачы першай змены 3-га тэкстыльнага камбіната сабраліся ў чырвоны куток, каб параіцца, як лепш сустрэць дзень выбараў. Адзін з таварышоў прапанаваў арганізаваць стаханаўскую вахту, і ўсе ткачы з ім згадзіліся аднадушна. Рашылі—у суботу ўсім застаць на вахту, а таксама заклікаць дапаможныя аддзелы, як рамонтную брыгаду, слёсараў, электраманцёраў, рабочых склада запасных матэрыялаў. Цэлы дзень у цэху павінны знаходзіцца два электраманцёры і два слёсары, каб папярэдзіць усякі прастой абсталявання з прычыны няспраўнасці. Дзённы план павінен быць значна перавыканан.

Не адстаюць ад ткачоў і стаханаўскія брыгады прадзільнага цэха. Мопраўскія брыгады імені Клары Цэткін (брыгадзір тав. Паплаўская) і імені Мархлеўскага (брыгадзір тав. Гоман) прынялі такія-ж самыя абавязацельствы.

Гэта будзе дастойнай сустрэчай дня выбараў.

**Г. Петрак.**

### Высокая выпрацоўка

ГРОДНА. (Па тэлефону). Сярод упакоўшчыц гродненскай табачнай фабрыкі назіраецца вялікі вытворчы ўздым. Калектыў рабочых упаковачнага цэха ўзяў на сябе абавязацельства датэрмінова выканаць гадавую вытворчую праграму. Зараз гадавы план выканан ужо на 92 процанты.

Рыхтуючыся да дня выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных, асобныя работніцы паказваюць выдатныя ўзоры працы. Упакоўшчыцы Хая Орбах і Малка Левіна ўпакоўваюць па 380 кілограмаў пры норме 215 кілограмаў. Елена Сенкевіч таксама значна перавыконвае дзённае заданне. Яна ўпакоўвае за змену па 350 кілограмаў замест нормы 215. Добра працуе ўпакоўшчыца Элька, упакоўваючы за змену 360 кілограмаў.

### Выбары сустракаюць вытворчымі поспехамі

Фабрыка № 32 адзіная ў Беластоку выпрацоўвае вацін. Толькі ў верасні тут уведзены нормы выпрацоўкі для рабочых вядучых прафесій — рашэльшчыкаў. З вялікім вытворчым уздымам калектыў прыняўся за асваенне норм выпрацоўкі. Многія рабочыя рашэльшчыкі ўжо дабіліся высокай выпрацоўкі. У разгарнуўшымся соцыялістычным спаборніцтве за дастойную сустрэчу дня выбараў у мясцовыя Советы, калектыў фабрыкі паказаў узоры работы.

Лістападаўская праграма па выпуску пражы выканана на 110,3 процанта. У першай дэкадзе снежня план па выпуску ваціну выканан на 120,1 процанта. 79 процантаў з агульнага ліку рабочых выканалі і перавыканалі норму выпрацоўкі. Рабочыя пераходзяць на ўшчыльнёную зону абслугоўвання. У другой палавіне лістапада двухстаночніца Внушынская выканала свой план на 147,8 процанта, Сліванюк — 128,8 проц., Бахрах — 111 проц. Двухстаночнікі Зільберцест і Рэсель падалі заявы аб пераходзе на 4-станочнае абслугоўванне.

**Н. Перэльштэйн.**

## Стаханаўскія вахты ў чэсць выбараў

Паміж цэхамі, паасобнымі рабочымі і служачымі 29-й прадзільна-ткацкай фабрыкі шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу дня выбараў. Першымі ў спаборніцтве ідуць ткацкі і прадзільны цэхі.

У апошнія дні рабочыя гэтых цэхаў штодзённа выконваюць заданне на 115—120 процантаў і вышлі на першае месца.

Зараз у чэсць дня выбараў у ткацкім цэху арганізаваліся зменныя стаханаўскія вахты. Ткачы-стаханаўцы Э. Замахоўскі, Б. Бэз, Х. Кац, М. Барын 13-га снежня першымі сталі на пачотную вахту. У гэты-ж дзень яны ўсе выканалі вытворчы план больш чым на 120 процантаў кожны. Камплектнасць іх прадукцыі вышэйшай якасці.

Пачын перадавікоў-стаханаўцаў падтрыман лепшымі рабочымі другой змены гэтага-ж цэха. Так двухстаночнікі другой змены тт. Ліпскі, Мідляр, Кац, Худзін уключыліся ў спаборніцтва і сталі на стаханаўскую вахту.

Небывалы вытворчы ўздым ахапіў перадавых ткачоў у перадвыбарчыя дні. Канкрэтнымі справамі, высокай прадукцыйнасцю працы сустракаюць яны дзень выбараў. У чэсць гэтага вялікага свята лепшыя стаханаўцы-двухстаночнікі тт. Юдалевіч, Суд і Ліпскі перайшлі на 3-станочнае абслугоўванне.

**П. Міхейкін.**

Галасуючы за вылучаных кандыдатаў, выбаршчык павінен памятаць, што ён галасуе за тую палітыку, якую праводзіць Совецкая ўлада і партыя большэвікоў.

